# НАША СВАБОДА

№38(265) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДУ

5 КРАСАВІКА 2002 году ПЯТНІЦА



Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 2100-253, факс 2100-254

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com


КОШТ СВАБОДНЫ

**Паважаныя чытачы!**

**Улічваючы вашы шматлікія прапановы, НАША СВАБОДА з наступнага нумару будзе выходзіць у аўторак (нумар на 8 старонках) і ў пятніцу (падвоены нумар на 16 старонках).**

**Кошт газеты для падпісчыкаў застаецца ранейшы. У кіёсках аўторкавы нумар будзе каштаваць 130 рублёў, а пятнічны 16-старонкавы – 220 рублёў.**

**У кіёсках пытайцеся НАШУ СВАБОДУ раніцой у аўторак і пятніцу.**

**Падпісны індэкс НАШАЙ СВАБОДЫ 63478**

Фота IREX/ProMedia

Кенза Ашыма, намеснік генеральнага сакратара ААН па гуманітарных пытаннях, спецкаардынатар ААН па міжнародным чарнобыльскім супрацоўніцтве падчас сустрэчы ў Веткаўскім раёне Гомельскай вобласці.

## ВЕСТКІ



### Ад жытла застаюцца папялішчы

Трывожная статыстыка вынікае з не спыненай яшчэ эпідэміі свавольных падпалаў травы на Магілёўшчыне. Агонь абярнуў у попел больш як 30 будынкаў. Абласное ўпраўленне Міністэрства па надзвычайных сітуацыях вымушана ўзмацніць кантроль і пераслед вінаватых. Да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнуты амаль 70 чалавек, прычым 80% з іх – кіраўнікі сельскагаспадарчых ці прамысловых прадпрыемстваў.

### «Палатнік» – пасярэднік раззбраення?

Аграрна-гаспадарчае прадпрыемства «Магістраль» Стаўбцоўскага раёну атрымала з вайсковай часці Слоніма аўтамабіль «Урал» з дызельным рухавіком. З удзячнасцю ўзгадваюць новыя гаспадары былога армейскага транспарту пра пасярэдніцкі ўдзел у такой дапамозе Мікалая Дубовіка. Гэты чалавек, які мае сваё крэсла ў Авальнай зале, паабяцаў таксама тэхнічнае абнаўленне лягасу і ПМК «Налібокі».

### МВФ прагназаваў спад заробкаў і пенсій

Сур'ёзна пракаментаваць бюджэтную сітуацыю ў краіне заклікана місія Міжнароднага валютнага фонду, якая наведае Беларусь у красавіку. Паводле слоў прадстаўніка МВФ у Літве і Беларусі Марка Хортана, прычыны запазычанасці па заработнай плаце і пенсіях трэба шукаць у леташняй палітыцы. Падвышэнні зарплаты перавысілі магчымасці яе выплаты. Трэба было браць крэдыты не толькі ў бюджэтнай сферы, але і ў рэальнай эканоміцы.

З моманту апошняга візіту ў Беларусь місіі МВФ (у лістападзе 2001 году) сітуацыя ў беларускай эканоміцы, паводле словаў М.Хортана, «засталася прыкладна такая самая».

### Зброя – як Чарнобыль

У Беларусі існуе пагроза, якая па сваім патэнцыяле можа перавысіць чарнобыльскую, – гэта праблема супрацьпяхотных мін, што захоўваюцца на тэрыторыі краіны. Такое паведамленне зрабіў кіраўнік грамадскай арганізацыі «СКАФ» Юрый Загуменаў на семінары ў Мінску «Замежная палітыка Рэспублікі Беларусь у новым кантэксце міжнароднай бяспекі». Паводле Загуменава, у Беларусі на складах цяпер захоўваецца каля 4,5 мільёнаў мін. З іх 3,6 мільёна – міны з вадкім напаўняльнікам, якія захоўваюцца ў металічных кантэйнерах. Пры іх разборцы непазбежныя выбухі, а тэхналогіі знішчэння пакуль не існуе. Пры адкрытым выбуху такіх мін выдзяляецца газ, які прыраўноўваецца да хімічнай зброі.

## Напад на «Альфа радыё»

4 красавіка, у 4 гадзіны 20 хвілін раніцы, на офіс «Альфа радыё», размешчаны ў Мінску па праспекце Скарыны, 181, быў учынены хуліганскі напад.

Як паведамілі на радыёстанцыі, напад здзейсніла жанчына на выгляд гадоў трыццаці. З невядомых прычын яна разбіла камянямі вокны і дзверы офісу «Альфа радыё», пратараніла сваёй машынай чатыры аўтамабілі на стаянцы і знікла з месца здарэння. Дзякуючы аператыўным дзеянням міліцыі хуліганку ўдалося затрымаць у раёне райцэнтру Смалявічы.

Зараз па факце інцыдэнту міліцыя праводзіць расследаванне.

**Маша ПЯТРОВА**

## Сутыкненне з цягнікам

3 красавіка незадоўга да поўначы на чыгуначнай станцыі гарадскога пасёлка Чырвоная Слабада Салігорскага раёну легкавы аўтамабіль «Форд-Эскорт» сутыкнуўся з таварным цягніком № 0273.

Як паведамілі БелаПАНу ў прэсслужбе МНС, сутыкненне адбылося ў выніку парушэння вадзіцелем «Форда» правілаў пераезду чыгуначных каляінаў. Машыніст таварнага цягніка заўважыў, што насустрач выязджае легкавы аўтамабіль, даў гукавы сігнал, аднак «Форд», нягледзячы на чырвоныя сігналы семафора, спыняцца не збіраўся. Толькі экстраннае тармажэнне цягніка ўратавала пецярых пасажыраў аўтамабіля ад імгненнай смерці. У выніку сутыкнення «Форд» вылецеў у кювет, два чалавекі – вадзіцель і яго брат, які знаходзіўся на пярэднім сядзенні, – атрымалі траўмы рознай ступені цяжкасці. Абодва цяпер знаходзяцца ў Салігорскім тэрытарыяльным медыцынскім аддзяленні. У старэйшага брата, які быў за рулём, дыягнаставана адкрытая чэрапна-мазгавая траўма, ён змешчаны ў рэанімацыйнае аддзяленне бальніцы, малодшы знаходзіцца ў траўматалогіі з закрытай чэрапна-мазгавой траўмай.

Адразу пасля аварыі таварны састаў адбуксавалі на найбліжэйшую станцыю, так што графік руху цягнікоў не парушыўся. Аўтамабіль «Форд» пацярпеў гэтак моцна, што аднаўленню не падлягае. Паводле папярэдняй інфармацыі, трое мужчын і дзве жанчыны, якія знаходзіліся ў салоне аўтамабіля, былі ў стане алкагольнага ап'янення.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ**

# Штрафы і «пасадкі»

## *Суддзя не паверыла Змітру Бандарэнку і Цімоху Дранчуку*

*2 красавіка ў судзе Цэнтральнага раёну Мінску прадоўжыўся разгляд адміністрацыйных спраў удзельнікаў святкавання Дня Волі, якое прайшло ў Мінску 24 сакавіка.*

Суддзя Таццяна Паўлючук пастанавіла прызнаць вінаватым за ўдзел у несанкцыянаваным шэсці аднаго з актывістаў маладзёжнага руху «Зубр» Цімафея Дранчука. Паколькі адміністрацыйнае правапарушэнне ўчынена ім паўторна на працягу году, суддзя ў адпаведнасці з часткай 2 артыкулу 167-1 Кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэннях прысудзіла яму адміністрацыйны арышт на 10 сутак.

Аднак пад варту Дранчука не ўзялі. Яшчэ да вынясення пастановы ён пакінуў суд, паведаміўшы, што кепска сябе адчувае і збіраецца ў паліклініку.

Каардынатар грамадскай ініцыятывы «Хартыя'97» Дзмітрый Бандарэнка аштрафаваны на 20 так званых базавых велічыняў, што складае 200 тыс. рублёў.

Завяршыўся суд над яшчэ адным удзельнікам святкавання Дня Волі – Уладзіславам Ігнатовічам. Яму вынесена папярэджанне.

Суддзя Паўлючук вынесла свае рашэнні на падставе міліцэйскіх пратаколаў, паказанняў двух супрацоўнікаў АМАПу і некаторых іншых матэрыялаў, прадстаўленых міліцыяй. Суддзя крытычна паставілася да паказанняў Дранчука і Бандарэнкі, а таксама заяўленых імі сведак, якія сцвярджалі, што абвінавачаныя не ўдзельнічалі ў шэсці, а ішлі па другім баку праспекту Скарыны, каб сфатаграфаваць дэманстрацыю і напісаць пра яе рэпартаж. Не былі ўзятыя пад увагу фатаграфіі, зробленыя Дранчуком, і сюжэт расійскай тэлекампаніі НТВ, якія пацвярджалі, на думку адказчыкаў, іх няўдзел у акцыі.

На судзе прысутнічалі прадстаўнікі пасольства ЗША і Кансультацыйна-назіральнай групы АБСЕ ў Беларусі.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

## Аварыя на АЭС

Першы энергаблок Ровенскай АЭС у сераду быў аварыйна адключаны ад сеткі, паведамілі ў нацыянальнай кампаніі «Энергаатам».

Блок, на якім у гэты дзень меўся пачацца планавы рамонт, адключыўся ў 15.02 у выніку пашкоджання аднаго з асноўных аўтаматычных рэгулятараў – рэгулятара ўзроўню вады ў парагенератары. Рамонт блоку працягнецца да 7 чэрвеня.

Апроч таго, яшчэ на двух энергаблоках таксама ў сераду няпланава зменшылася выпрацоўка электраэнергіі.

У прыватнасці, магутнасць 3 блоку Ровенскай АЭС знізілася на 25% праз выцек вадароду з сістэмы ахаладжэння генератару. Для ліквідацыі выцеку ноччу планавалася спыніць энергаблок. Месца дэфекту ўжо знойдзена, рамонт блоку плануецца скончыць да 8 красавіка.

На 10% знізілася магутнасць 3 блоку Запарожскай АЭС з прычыны збою ў працы аднаго з элементаў сістэмы кіравання рэактарам. Аднак магутнасць станцыі ў цэлым не зменшылася: дадатковую нагрузку перакінулі на 5 блок.

**Рыгор САЛА**

# Спікеру «палаткі» не давяраюць

*Зусім несвяточным выдаўся для старшыні Палаты прадстаўнікоў Вадзіма Папова першы дзень працы вясновай сесіі – 2 красавіка. Дэпутат Валерый Фралоў прапанаваў унесці ў парадак дня сесіі пытанне пра недавер спікеру. І хоць большасцю галасоў прапанова не прайшла, для В.Папова дэпутацкая ініцыятыва мусіць стаць «трывожным званочкам». Публічнае незадавальненне дзейнасцю В.Папова выказваецца не ўпершыню.*

Уласную ініцыятыву В.Фралоў патлумачыў адсутнасцю «стратэгічнай лініі» ў заканапраектнай дзейнасці. Гэта значыць, што дэпутаты не могуць уплываць на сітуацыю ў Беларусі праз законы, якія ініцыююць і прымаюцца імі. Па сутнасці, у сп.Папову многія дэпутаты бачаць не спікера, як тое мае быць, а лабіста інтарэсаў ураду Генадзя Навіцкага.

«У мяне такое ўражанне, што Вадзім Аляксандравіч думае, што ён сядзіць, як і раней, у абкаме ці міністэрскім крэсле і, як раней было прынята вагацца разам з генеральнай лініяй партыі, цяпер ён вагаецца з генеральнай лініяй Адміністрацыі прэзідэнта», – падкрэсліў Валерый Фралоў.

На ягоны погляд, сапраўдным спікерам мог бы стаць цяперашні намеснік старшыні Уладзімір Канаплёў, які «дэ-факта кіруе парламентам і робіць гэта эфектыўна». Сам У.Канаплёў адмовіўся ад такой прапановы.

Сярод тых, хто падтрымаў прапанову В.Фралова, быў і Уладзімір Навасяд. «За паўтара года так і не ўдалося арганізаваць сістэмную працу Палаты прадстаўнікоў. Летась ПП прапанавала толькі адзін (!) законапраект, 77 – урад, 29 – Адміністрацыя прэзідэнта. Канстытуцыя дае дэпутату права заканатворчай дзейнасці, але рэалізаваць яго ён не можа», – заявіў У.Навасяд. На ягоную думку, «дэпутаты, якія маюць палітычныя амбіцыі і жадаюць застацца ў палітыцы, працаваць не маюць магчымасці».



Фота IREX/ProMedia

Вадзім Папоў і Уладзімір Канаплёў слухаюць дзяржаўны гімн

**Рыгор БУЯН**

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага даляра на «чорным рынку»**

**1740**

# Брокер на ўездзе ў Расію,

## як жывы шлагбаум для беларуса

Усе дарогі, што вядуць з Беларусі на Усход, сцякаюцца ўрэшце ў некалькі транспартных калідораў з абавязковым шлагбаумам на ўездзе. 16 аддзелаў мытнага кантролю ўтрымлівае Расія ля геаграфічных межаў нашай краіны. Нягледзячы на шматгадовыя высілкі беларускай улады паскорыць паўзучую інтэграцыю ў адзіны саюз, сваю эканамічную прастору сусед абараняе на прынцыпах грашовых пабораў і штрафаў. Спашлёмся на скаргі, што даходзяць да Мінску са смаленскай Чырвонай Горкі. Даўні чытач газеты НАША СВАБОДА прадпрымальнік Міхаіл В. абураны вялікімі чэргамі легкавых аўтамабіляў менавіта з беларускімі дзяржнумарамі.

– Расійскія мытнікі, – кажа Міхаіл, – адпраўляюць нас адразу ў чаргу да так званых брокераў. Праз 2-3 гадзіны нуды ў натоўпе атрымліваеш магчымасць пагутарыць з чалавекам за камп'ютэрам, які прапаноўвае табе аформіць некалькі дакументаў на праезд за 70 расійскіх рублёў. Аплачваю чэк, забіраю паперы і пераходжу ў чаргу да мытніка. Зноў пару гадзінаў кату пад хвост. Мытнік патрабуе зрабіць дадатковы ксеракопіі бланку заявы, дэкларацыі, асабістага пашпарта, заплаціць за гэтыя паслугі і толькі тады пачынае афармляць Пасведчанне на ўвоз транспартнага сродку (ПУТС) у Расію.

Патлумачым, што брокерскія паслугі прыжыліся на расійскіх мытнях неўзабаве пасля таго, як тут строга ўвялі Пасведчанні на часовы ўвоз транспартнага сродку ў Расію для легкавікоў з Беларусі (яны аднесены да ліку замежных). Дакумент, што выдае мытня, дзейнічае ад некалькіх сутак да двух месяцаў. Атрымліваючы гэтую своеасаблівую дарожную ліцэнзію, аўтаўладальнік ставіць подпіс пад абавязаннямі, пры невыкананні якіх прадугледжваюцца пакаранні. Паводле артыкулу 251 Мытнага кодэксу (МК РФ), у выпадку невяртання па звароце з Расіі раней выдадзенага Пасведчання, трэба плаціць штраф у памеры ад 3 да 10 расійскіх «мінімалак». Яшчэ больш суворы артыкул 271 МК РФ, які рэглямэнтуе штрафы ў суме ад 100 да 300% ад ацэначнага кошту аўтамабіля на выпадак, калі транспартны сродак не вывезены ў вызначаныя тэрміны за межы Расіі. Горшага не прыдумаць для чалавека, які затрымліваецца па сваіх пільных справах, захварэў, патрапіў у аварыю і г.д. Не маючы магчымасці выбрацца дадому ва ўстаноўлены тэрмін, трэба «адмазваццa» паперкамі з пячаткамі. А ў Расіі іх за дзякуй не даюць.

– Мяне аштрафавалі за 1 дзень пратэрміноўкі, – працягвае расказваць Міхаіл В., – і гэта выглядала здзекам. Іхныя брокеры – лахатроны. Яны «клеяцца» толькі да беларусаў, таму што не здольныя патлумачыць чалавеку з Захаду на яго роднай мове, чаму трэба плаціць налева ад мытні. З беларусам жа гутарка кароткая: давай грошы – паедзеш далей! Нас тут зрабілі закладнікамі расійскага шавінізму. Такое прыніжэнне чалавека за яго ж грошы я параўноўваю са зняважамі на царскай ваколіцы, калі рабіліся налёты пажывіцца грашыма, палаяць і пабіць плёткамі...



**Вячаслаў КУЛІК**

**Каментар НАШАЙ СВАБОДЫ**

Як вынікае са скаргі нашага чытача, беларус на сваіх колах апынаецца ў горшым становішчы, чым расіянін у Беларусі. Спроба атрымаць нейкае тлумачэнне ў прадстаўніцтве Мытнай службы Расійскай Федэрацыі на вуліцы Камуністычная, 11 у Мінску была сустрэта з паразуменнем, але без прызнання якой-кольвек вінаватасці свайго ведамства. Тут даводзяць, што брокерскія паслугі не абавязковыя. Маўляў, прадпрымальныя людзі атрымліваюць дазвол у мясцовай улады на камерцыйную дзейнасць і зарабляюць сабе на хлеб. Каб давесці да чытача больш поўную інфармацыю, мы маем намер наведаць найбліжэйшым часам аддзел мытнага кантролю «Чырвонае» на расійскім баку.

# Наркотыкі для Гомельшчыны

Пацверджаннем таго, што паўднёвая частка Беларусі – актыўны рынак збыту наркотыкаў, служаць вынікі даволі паспяховай аперацыі супрацоўнікаў Мазырскай мытні. На пераходзе Новая Рудня беларуска-ўкраінскага памежжа арыштавалі банду наркакур'ераў з Малдовы і Беларусі. За абшыўкай дзвярэй іхнага легкавіка ўтойваліся 16 упаковак падазронага рэчыва. Экспертыза засведчыла, што гэта – марыхуана агульнай вагой 6,5 кілаграмаў. Паколькі гэта была спроба арганізаванага збыту, падзельнікам пагражаюць шматгадовыя тэрміны турэмнага зняволення паводле артыкулу 228 Крымінальнага кодэксу РБ.

У Светлагорску, Жлобіне, Гомелі і іншых гарадах вобласці ў 2001 годзе і сёлета выкрылі больш як 400 грамадзянаў Беларусі і 18 замежнікаў, якія займаліся распаўсюджваннем атрутнага зелля.

Вядома, што некаторыя наркаманы здольныя да агрэсіі, таму міліцыі давялося ўзбуджаць адміністрацыйныя і крымінальныя справы больш як у 480 выпадках.

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

# Раён без кніг

У найгоршым на сёння становішчы на Міншчыне ў плане матэрыяльнага забеспячэння бібліятэк апынуўся Бярэзінскі раён. Спадзяванні толькі на добраахвотныя ахвяраванні, бо мясцовы бюджэт не выдзяляе сродкаў на набыццё новай літаратуры цягам чатырох апошніх гадоў. Фінансавая дапамога ў 2001 годзе з вобласці, у тым ліку на частковую камп'ютэрызацыю бібліятэчнай сеткі, не дайшла да адрасата. З бібліятэчнага фонду ў мінулым годзе спісалі 10 тысяч зношаных кніг.

Загадчыца раённай бібліятэчнай сеткі Святлана Зіноўева кажа пра несупынны адток чытачоў. Сёлета ў райцэнтры іх зменшылася на 200 чалавек. Абанементам карыстаюцца толькі школяры і студэнты. Адмысловыя кнігі для прафесіяналаў састарэлі, інваліды і пенсіянеры таксама жадаюць чытаць свежае. Бібліятэкары просяць грошай у насельніцтва, і ў некалькі этапаў акцыі «Дапамажы бібліятэцы» сабралі невялікую суму, каб набыць кніжныя навінкі на начным кірмашы ў Мінску. Святлана Зіноўева лічыць гэта выйсцем з бядотнага становішча.

**Галіна БАРАВАЯ**

# Прагнілі трубы

Яшчэ і да сёння ў Жодзіне ліквідуюць наступствы паводкі, што адбылася з прычыны аварыі водаправоднай сістэмы 3 красавіка. Шэраг жылых дамоў і прадпрыемстваў гораду машынабудаўнікоў засталіся без халоднай вады.

Прарыў у водаправоднай трубе дыяметрам 50 сантыметраў адбыўся каля 10 гадзін раніцы ля аднаго з жылых дамоў па вуліцы Маскоўскай. У выніку аварыі вада трапіла ў склеп пад жылым домам і затапіла яго. Была спынена падача халоднай вады ў 114 жылых дамоў, без халоднага водазабеспячэння засталіся будаўнічае ўпраўленне, мэблевая крама і праваслаўная царква. Жыхарам гораду давялося карыстацца вадой з цыстэрнаў. Як адзначылі ў прэс-службе МНС, цяперашняя аварыя водаправоднай сістэмы была 15-й у Жодзіне з пачатку году.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ**

# Кроў на фронце пасяўной

Накаркалі крыклівыя селектары: заклікі «ўраджай каштуе крыві!» крывёю і абярнуліся. Ужо тры смерці на пасяўной у Брэсцкай вобласці. 29 сакавіка загінуў 42-гадовы механізатар калгасу «Радзіма» Ганцавіцкага раёну. Праз тое, што колавы трактар Т-150К не быў укамплектаваны, як належыць, акумулятарам для запуску рухавіка з кабіны, ягоны кіроўца мусіў тузаць рэмень так званага «пускача», стоячы на слізкай глебе. І хаця такое ён рабіў не ўпершыню, гэтым разам лёс ад яго адвярнуўся – машына завялася і паехала. Трактарыст апынуўся пад коламі і ад атрыманых траўмаў памёр.

30 сакавіка загінуў пяцігадовы хлопчык. Дзіця вывалілася праз акно трактара МТЗ-80 і трапіла пад заднія колы. За рулём машыны знаходзіўся бацька малога, 24-гадовы трактарыст калгасу «Усход» Камянецкага раёну.

31 сакавіка з кабіны трактара падчас руху выпаў 45-гадовы механізатар калгасу імя Дзяржынскага Пінскага раёну. Ён трапіў пад культыватар і загінуў.

Прычыны трагічных смерцяў людзей высвятляюць мясцовыя пракуроры. Наўрад ці следства зойме шмат часу, бо мёртвага, як той казаў, з долу не падымеш, а сярод жывых цяжка адшукаць вінаватага. На Брэстчыне ў лютым былі адключаныя ад сеткі за даўгі электрыкам 219 калгасных рамонтных майстэрняў. Больш за 50% зношанай тэхнікі засталося непадрыхтаванай да выхаду ў поле. У фармальны працэдурыператварылі прафесійную вучобу механізатараў і экзамены па тэхніцы бяспекі.

Каб застрахавацца ад няшчасця, калгасы навадніл кантралёрамі і ўпаўнаважанымі. Мінскі аблвыканкам прыняў нават рашэнне зрабіць 15-гадзінны працоўны дзень для аратчыкаў усіх звёнаў «вертыкалі». З 6 гадзінаў раніцы да 21-й вечара армія чыноўнікаў абавязана прысутнічаць на фронце пасяўной.

Ненадзейнасці калгаснай тэхнікі і неўкамплектаванасці кадрамі Магілёўскі аблвыканкам супрацьпаставіў высылку з гарадоў усіх трактароў, што яшчэ на сваім хаду. Магілёў адправіць 500 адзінак, Бабруйск – 400, астатнія райцэнтры – да 200. Пасяўная ў Беларусі разварочваецца нібыта па правілах франтавых дзеянняў: атакуюць першыя сілы, падцягваецца тыл, мяняюцца камандзіры. Няхай будзе так. Толькі б менш пралілося крыві.

**Галіна БАРАВАЯ**

# «Орша» страйкуе

Неспакойна зараз у калектыве аднаго з найбуйнейшых прадпрыемстваў лёгкага машынабудавання краіны – адкрытага акцыянернага таварыства «Орша». Больш за дзве тысячы працаўнікоў прадпрыемства пачалі 2 красавіка стыхійны страйк. Працаўнікі былі ў цэхах прадпрыемства, але не ўключалі станкі. Ад адміністрацыі аршанцы патрабавалі выплаціць заробкі, агульная лічба запазычанасці па якіх дасягае 170 мільёнаў. На прадпрыемстве пабывала міліцыя, але абышлося без сур'ёзных інцыдэнтаў. У чацвер, 4 красавіка, у касу ААТ «Орша» былі тэрмінова завезеныя грошы і пачаліся разлікі з людзьмі.

**Міхал ЧАРВІНСКІ**

# У Старых Дарогах – новы музей

Працаваць на карысць гісторыі нашай Бацькаўшчыны пачынае яшчэ адзін краязнаўчы музей. У Палацы культуры райцэнтру Старыя Дарогі вызвалілі плошчы пад экспанаты вясковага побыту, вырабы народных майстроў, літаратуру і дакументы з асабістых архіваў землякоў. Як паведаміла прызначаная на пасаду дырэктаркі Ларыса Завадская, каштоўны набыткак – кросны, прыдатныя да працы. Майстар Кацярына Русаковіч перадала дыван ручной работы, а мастак-разьбяр Ігар Лізура – 50 сваіх вырабаў. І ў далейшым фармаванні музейнай экспазіцыі вялікія спадзяванні ўскладаюцца на патрыятычную прыхільнасць насельніцтва. Не ў прыклад перыяду развалу ў найноўшай гісторыі, раней старадарожцы мелі багата духоўных каштоўнасцяў, і гэтую спадчыну варта зберагаць, каб было апірышча для ўздыму новай Беларусі.

**Галіна МАК**

# Улады і сметніцы

Зараз у Гродне пачнецца бум, звязаны са сметніцамі. Гарадскія ўлады вырашылі: побач з кожным шапікам, крамай, кавярняй і да т.п.. абавязкова павінны быць сметніцы. Іх наяўнасць – «абавязковая ўмова атрымання адпаведнага дазволу на права занятку пэўнымі відамі дзейнасці на тэрыторыі гораду».

Чаму выдача ліцэнзіяў павінна залежаць ад сметніц? Як у калгасе: не выйшаў на праполку буракоў – не атрымаеш сенажаці, не дадуць каня, каб узараць дзялку. Гэткія атавізмы прыгоннага права. На вёсцы. У горадзе гэта штосьці крыху іншае, адразу цяжка і акрэсліць. Нейкія рэшткі феадальных парадкаў.

Канечне, у феадальным горадзе, якім быў некалі Гродна, кожны гаспадар павінен быў трымаць чыстую частку вуліцы перад домам у чысціні. Сёння такое правіла існуе сям-там і на вёсцы. Вядома таксама, што ў нашых вёсках і сёння няма кантэйнераў для смецця ды машын-смецявозаў. Але ўсё гэта ёсць у горадзе. Прыбіраць і вывозіць смецце – абавязак уладаў. Чаму яны не спраўляюцца са сваім абавязкам? Таму, што самакіраванне ў нашай краіне – фікцыя. Улады вялікага гораду не маюць грошай на звычайныя сметніцы.

Каля кожнай гродзенскай установы, якая аказвае якія-небудзь паслугі, павінна быць як мінімум дзве сметніцы. І вычышчаць іх гаспадар абавязаны не радзей за два разы ў дзень. Сачыць за станам сметніц будзе зусім не камунальная служба, а Цэнтр гігіены і эпідэміялогіі. Праблема сапраўды існуе. Гадоў шэсць таму да прыезду Лукашэнкі ў горадзе на слупах павесілі новыя сметніцы. Але яны былі малазмяшчальныя, не вельмі трывалыя. Карацей, большасць за гэты час паламалі.

Папярэдні старшыня гарвыканкаму А.Пашкевіч любіў называць Гродна «маленькай Швейцарыяй» і чамусьці «маленькім Ватыканам». За архітэктуру. Цяперашні – А.Антоненка – болей разважае пра чысціню гарадскіх вуліц.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

НАШЫ ПАМЯТНЫЯ МЯСЦІНЫ



Тут на прынёманскіх палях каля вёскі Магільна беларускія і літоўскія палкі ў 1284 годзе разбілі войска татара-манголаў

## Была акадэмія – стаў універсітэт

Прэзідэнт Беларусі падпісаў указ аб пераўтварэнні Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі ў Беларускі нацыянальны тэхнічны універсітэт.

Савету міністраў даручана ў трохмесячны тэрмін зацвердзіць дзяржаўную праграму ўдасканалення сістэмы вышэйшай тэхнічнай адукацыі і перспектыўны план развіцця матэрыяльна-тэхнічнай базы Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэту на 2003-2008 гады.

Як зазначаецца ў афіцыйным каментары да ўказу, статус універсітэту дасць ВНУ шырэйшыя магчымасці для супрацоўніцтва ў рэалізацыі адукацыйных праектаў, якія фінансуюцца ў рамках Еўрапейскага Саюзу, еўрапейскіх і сусветных адукацыйных арганізацый.

**Юрый АЛЯКСЕЕЎ**

# БББ пазбавілі ліцэнзіі

*Рашэннем праўлення Нацыянальнага банку Беларусі ААТ «Беларускі біржавы банк» пазбаўлена ўсіх ліцэнзій на ажыццяўленне банкаўскіх аперацый.*

Як зазначаецца ў афіцыйным паведамленні Нацбанку, у сувязі з нездавальняючым фінансавым станам «Беларускага біржавога банку», невыкананнем ім сваіх абавязацельстваў перад укладчыкамі і крэдыторамі і на падставе артыкулу 97 Банкаўскага кодэксу з 4 красавіка 2002 году ў банку адкліканы ліцэнзія на ажыццяўленне банкаўскіх аперацый і генеральная ліцэнзія на ажыццяўленне аперацый у замежнай валюце.

Месяц таму ў банку была адклікана ліцэнзія на прыцягненне ва ўклады сродкаў фізічных асоб. У Нацбанку гэтае рашэнне тады патлумачылі тым, што з лета 2001 году «Беларускі біржавы банк» мае сур'ёзныя фінансавыя цяжкасці, звязаныя з дрэнным менеджментам. З гэтага ж часу банк самастойна вяртае ўклады насельніцтва і не прыцягвае новых. Разам з тым фінансавы стан «Беларускага біржавога банку» застаецца нездавальняючым. Як кажуць супрацоўнікі Нацбанку, аб'ём укладаў насельніцтва, які застаецца ў згаданага банку, «вельмі невялікі».

Цяпер «Беларускі біржавы банк» пазбаўлены ўсіх ліцэнзій на ажыццяўленне банкаўскіх аперацый. Да прызначэння судом конкурснага кіраўніка забараняецца заключэнне здзелак банкам і выкананне абавязацельстваў па іх.

Як гаворыцца ў афіцыйным паведамленні галоўнага банку краіны, у адпаведнасці з артыкулам 211 закону Рэспублікі Беларусь «Аб эканамічнай неплатаздольнасці (банкруцтве)» Нацыянальны банк неўзабаве падрыхтуе неабходныя дакументы і накіруе заяву ў Гаспадарчы суд, каб узбудзіць справу аб банкруцтве ААТ «Беларускі біржавы банк» і прызначыць конкурснага кіраўніка.

**Даведка.** ААТ «Беларускі біржавы банк» зарэгістравана ў Нацыянальным банку Беларусі 7 кастрычніка 1992 году. У красавіку 2001 году Следчы камітэт пры Міністэрстве ўнутраных спраў узбудзіў крымінальную справу ў дачыненні да старшыні праўлення «Беларускага біржавога банку» Андрэя Маркоўскага па падазрэнні ў крадзяжы валютных сродкаў у асабліва буйных памерах.

**Аляксей АРЭШКА**

## ПРАБАЧЭННЕ

У нумары НАШАЙ СВАБОДЫ за 30 студзеня гэтага году быў змешчаны матэрыял «Дарыда» бярэ ваду на тэрыторыі могільніка». Гэты артыкул рыхтаваўся Беларускай службай Радыё «Свабода» і быў перадрукаваны намі без зменаў, бо ягоная экалагічная праблематыка падалася нам актуальнай.

На жаль, мы не праводзілі самастойнай журналісцкай праверкі звестак, пададзеных у названым артыкуле.

Мы просім прабачэння ў шырокавядомай кампаніі «Дарыда» за публікацыю неправеранай інфармацыі.

**Рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА**

# Дарагія нашыя чытачы!

Рэдакцыя НАШАЙ СВАБОДЫ хоча, каб як найбольш нашых грамадзян атрымлівалі годную веры інфармацыю пра падзеі ў краіне. Без уліку вашае думкі, без аператыўнай зваротнай сувязі сёння нельга выпускаць газету. Мы хочам ведаць, што вы думаеце пра матэрыялы, якія мы друкуем, запрашаць на нашыя старонкі людзей, якія вам цікавыя, абмяркоўваць з вамі тэмы і рубрыкі. Усё гэта дазволіць зрабіць газету цікавейшаю, лепш зразумець, што дзеецца ў краіне, і што рабіць, каб «беларуская мадэль» ператваралася ў нармальную еўрапейскую.

Дзеля гэтага рэдакцыя арганізуе клуб чытачоў газеты НАША СВАБОДА. Сябрам клубу можа стаць кожны, хто патэлефануе ў рэдакцыю па тэлефоне 2-100-254 і паведаміць свой тэлефон для кантакту. Мы будзем абавязкова звязвацца з вамі, абмяркоўваць нашыя публікацыі, улічваць вашыя прапановы.

Мы просім вас: прачытаўшы нумар НАШАЙ СВАБОДЫ, передавайце яе сваякам і сябрам. Хай як найбольш людзей уведаюць наш з вамі пункт гледжання.

НАША СВАБОДА пачне выходзіць цяпер два разы на тыдзень: у аўторак і пятніцу. Пятнічны нумар стане ўдвая таўсцейшы. Гэта дазволіць друкаваць больш аналітычных матэрыялаў, запрашаць новых аўтараў.

**Рэдакцыя НАШАЙ СВАБОДЫ**

## КРЫМІНАЛ

### Сутычкі грамадзянаў і міліцыі

Увечары 3 красавіка каля мінскага універсаму «Валгаград» (мікрараён Паўднёвы Захад) адбыліся сутыкненні паміж мясцовымі жыхарамі і міліцыяй.

Як паведаміў БелаПАНу былы дэпутат Вярхоўнага Савету Беларусі 12-га склікання Сяргей Антончык, які пражывае ў гэтым раёне і стаў сведкам інцыдэнту, каля 18 гадзін міліцэйскі патруль у колькасці трох чалавек (з сабакам) падышоў да трох «добра апранутых мужчын нападпітку ва ўзросце 50-60 гадоў» і прапанаваў прайсці ў аддзяленне. Тыя адмовіліся, пасля чаго міліцыянеры «прымянілі спецсродкі: накінуліся з дубінкамі, выкарысталі слёзацечны газ «чаромха», на аднаго паспелі надзець наручнікі». «Аднак натоўп у 150-200 чалавек, які там сабраўся, кінуўся на міліцыянераў і стаў адбіваць гэтых мужчын. Патруль іх адпусціў і выклікаў падмацаванне. Да месца здарэння прыехала каля 60 міліцыянераў. Патрульных пасадзілі ў машыну, натоўп спрабаваў яе перакуліць, але іншыя міліцыянеры не дазволілі гэтага зрабіць», – паведаміў Антончык.

Паводле яго словаў, на працягу дзвюх гадзін каля універсаму праходзіў разбор: «Прыехалі міліцэйскае начальства, прадстаўнікі пракуратуры і ДАІ. Тых мужчын адпусцілі, у іх папрасілі прабачэння, а патрульных, сярод якіх аказаліся два супрацоўнікі ўнутраных войскаў, апранутыя ў міліцэйскую форму, павезлі на медыцынскі агляд. Не выключана, што хтосьці з іх быў нецвярозы».

Паводле словаў Антончыка, прадстаўнік пракуратуры паведаміў прысутным, што раніцай пачнецца службовае расследаванне гэтага інцыдэнту.

**Дзмітрый УЛАСАЎ**



Фота IREX/ProMedia

Халодная і агнястрэльная зброя, вынятая беларускай міліцыяй у крымінальных элементаў

### Забралі і брыльянты, і даляры

2 красавіка ў Мінску пры спробе збыту брыльянта вагой больш як 2 караты затрыманы дырэктар унітарнага прадпрыемства «Пран». У затрыманні, якое адбылося ў момант перадачы пакупніком 15 тысяч даляраў ЗША ў офісе «Прану», удзельнічалі супрацоўнікі ўпраўлення па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі МУС Беларусі сумесна з калегамі з АБЭЗ Маскоўскага РУУС Мінску пры падтрымцы байцоў спецпадраздзялення «Алмаз». Пра гэта БелаПАНу паведаміў начальнік прэс-службы МУС Беларусі Віталь Грынкевіч.

Падчас вобыску ў памяшканні офісу фірмы «Пран» было знойдзена каля 70 брыльянтаў велічынёй ад 1 да 2 міліметраў, 125 залатых ювелірных вырабаў, залатая брошка, інкруставаная брыльянтамі, абраз XVIII стагоддзя, звыш 10 тысяч апрацаваных камянёў рознага колеру для ювелірных вырабаў, а таксама прыстасаванне для пламбавання этыкетак на ювелірных вырабах. Акрамя таго, паведаміў Грынкевіч, на кватэры затрыманага было знойдзена і канфіскавана 26 ювелірных вырабаў, вырабленых па індывідуальнай замове, залатое кальё, інкруставанае каштоўнымі камянямі, а таксама багатая калекцыя халоднай і газава-шротавай зброі.

У дачыненні да дырэктара унітарнага прадпрыемства «Пран» узбуджана крымінальная справа па артыкуле 223, частка 3 КК Беларусі («Парушэнне правілаў аб здзелках з каштоўнымі металамі і камянямі»).

**Юрый КАСЬЯНАЎ**

### «Справа прафесараў» працягваецца

Следчая група Пракуратуры Рэспублікі Беларусь завяршыла расследаванне крымінальнай справы ў дачыненні да былога загадчыка кафедры неўралогіі і нейрахірургіі Гомельскага дзяржаўнага медыцынскага інстытуту (раней прарэктара па лячэбнай працы) Юрыя Янкелевіча.

Як паведамілі БелаПАНу ў прэс-цэнтры пракуратуры, падчас правядзення расследавання ўстаноўлена, што Ю.Янкелевіч, калі займаў пасаду загадчыка кафедры інстытуту і быў у службовых адносінах з былым рэктарам Юрыем Бандажэўскім, у ліпені 1997 году і ў ліпені 1999 году «ўступіў з апошнім у злачынную змову аб сумесным незаконным прыўлашчэнні ў сваю ўласнасць грошай у замежнай валюце за аказанне садзейнічання ў паступленні ў медінстытут дзяцей сваіх знаёмых». Так, паведамляецца, што ў ліпені 1997 году Ю.Янкелевіч атрымаў ад мужа і жонкі Ігнатчыкаў у якасці хабару 7 тысяч даляраў ЗША за паступленне ў ВНУ іх сына і дачкі, а потым перадаў грошы Ю.Бандажэўскаму. У ліпені 1999 году Ю.Янкелевіч, прызначаны тады загадам рэктара на пасаду кіраўніка клінікі нервовых хвароб бальніцы Гомеля, выкарыстаў службовае становішча і паабяцаў доктару гэтай бальніцы Ігнатаву дапамагчы ў паступленні ў Гомельскі медінстытут дачкі знаёмых Ігнатава, за што атрымаў 5 тысяч даляраў. Па дамоўленасці з былым рэктарам ВНУ згаданую суму той павінен быў атрымаць пасля заканчэння працы ўступнай камісіі і паступлення абітурыенткі ў медінстытут, паведамілі ў прэс-цэнтры Пракуратуры. Давесці да канца злачынства Ю.Янкелевіч не змог па незалежных ад яго абставінах: 13 ліпеня 1999 году Ю.Бандажэўскі быў арыштаваны.

Крымінальная справа ў дачыненні да Ю.Янкелевіча накіравана ў суд, сам ён заключаны пад варту.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ**

### Баярына вярнулі на радзіму

*Былы літоўскі турэмшчык сам трапляе за краты*

У аўторак прадстаўнікі беларускіх праваахоўных органаў перадалі паліцыі Літвы былога намесніка начальніка вільнюскай турмы «Лукішкяй» Станіслава Баярына. На працягу некалькіх месяцаў турэмшчык хаваўся ў Беларусі, каб пазбегнуць крымінальнай адказнасці за хабарніцтва.

Перадача злачынца адбылася на памежным пераходзе «Каменны Лог»-«Мядзінінкай». Бліжэйшыя пяць гадоў 46-гадовы С.Баярын правядзе за кратамі ў той самай вязніцы, дзе раней працаваў.

Паводле літоўскіх крыніцаў, былы намеснік начальніка турмы разам з яшчэ адной супрацоўніцай рэжымнай установы вымагалі хабар у буйным памеры ў асуджанай і пазней апраўданай жанчыны, а таксама яе сваякоў – нібыта за спрыянне ў адмене пакарання. Гэта пацвердзіла расследаванне, праведзенае Вільнюскім акруговым судом.

Саўдзельніца Станіслава Баярына была арыштаваная яшчэ ў канцы 2000 году і цяпер адбывае пакаранне ў жаночай калоніі гораду Панявежыс. Але галоўны абвінавачаны паспеў перасячы беларуска-літоўскую мяжу. Тут у яго былі сваякі ў Чэрвеньскім раёне Мінскай вобласці. Яны і далі прытулак уцекачу. Але ненадоўга.

У лютым гэтага году беларускія праваахоўныя органы правялі спецаперацыю па затрыманні С.Баярына. Аперацыя была паспяховай, і ад таго часу ён знаходзіўся ў мінскім следчым ізалятары. Пасля кароткіх перамоваў паміж пракуратурамі Беларусі і Літвы было вырашана, што літоўскі злачынец мусіць адседжваць свой тэрмін у літоўскай турме.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

## ПАЛІТЫКА

# Новы старшыня АБСЕ

Новым дзеючым старшынём АБСЕ стаў міністр замежных справаў Партугаліі Антоніэ Марцінс дэ Крус.

2 красавіка прэм'ер-міністр Партугаліі Жазэ Мануэль Дуран Бароза абвясціў склад сфармаванага ім новага ўраду краіны. Ён створаны на кааліцыйнай аснове Сацыял-дэмакратычнай партыяй і Сацыял-дэмакратычным цэнтрам – Народнай партыяй.

Да прызначэння кіраўніком знешнепалітычнага ведамства новы міністр займаў пасаду пасла Партугаліі ў Іспаніі.

Змена ўраду ў краіне адбылася пасля парламенцкіх выбараў, якія прайшлі там 17 сакавіка, і перамогі на іх апазіцыйных сіл.

**Уладзімір ГЛОД**

# Працоўны дзень – 15 гадзін

З 3 па 20 красавіка ў кіраўнічых структурах Мінскай вобласці ўводзіцца новы рэжым працы. Кіраўнікі структурных падраздзяленняў аблвыканкаму, кіраўнікі і чальцы раённых і гарадскіх выканкамаў, іх структурных падраздзяленняў, а таксама кіраўнікі арганізацый вобласці будуць працаваць штодзённа з 6 да 21 гадзіны. Звычайна працоўны дзень цягнецца з 8 да 17 гадзін. Як паведаміў прэс-цэнтр Мінаблвыканкаму, гэты захад зроблены дзеля своечасовага і аптымальнага правядзення веснавой пасяўной кампаніі. Супрацоўнікі, прыцягнутыя да звышурочных работ, пасля заканчэння пасяўной кампаніі будуць заахвочвацца ў адпаведнасці з працоўным заканадаўствам Беларусі.

**Лавінія АРЭШКА**

# Заўтра – з'езд АГП

Аб'яднаная грамадзянская партыя, адна з найбуйнейшых партыяў у краіне, ладзіць 6 красавіка свой з'езд. Пра гэта паведаміла прэс-служба АГП. Сярод найважнейшых пытанняў на парадку дня з'езду – выбары новага кіраўніка партыі, яго намеснікаў, а таксама выбары ў Палітычную раду і Нацыянальны камітэт. Як стала вядома, цяперашні лідэр партыі Анатоль Лябедзька збіраецца зноў вылучаць сваю кандыдатуру на кіраўнічую пасаду.

**Ірына СТАРЦАВА**

## НАША КІНО



# Маналог мастака Алеся Пушкіна

*У мяне звычайная біяграфія... Мае прадзеды, дзяды, бацькі жывуць у мястэчку Бобр. І я там нарадзіўся, вучыўся ў мясцовай школе, любіў маляваць марскіх «Лятучых Галандцаў», пірацкія караблі з «вясёлымі роджэрамі», зімовыя краявіды з санкамі – конь, санкі, вечар, вясковая хата, у вакне гарыць святло. Бацька прывёз мяне ў Мінск паступаць у Рэспубліканскую школу-інтэрнат па музыцы і выяўленчым мастацтве імя В.Ахрэмчыка... Цяпер называецца Рэспубліканскім каледжам мастацтваў. Я здаў экзамены і паступіў.*



Фота Ул.ШЛАПАКА

## Пра першы бунт

1983 год, 11 клас школы-інтэрнату. Мы, два 11-ыя класы, арганізавалі галадоўку пратэсту супраць сваволі адміністрацыі. Напісалі петыцыю з шэрагам патрабаванняў: дазволіць працаваць у майстэрні да 11 гадзінаў, забараніць выхавацелям абражаць нас дрэннымі словамі накшталт «карова», «дурань», каб супрацоўнікі сталоўкі захоўвалі санітарныя нормы і правілы гігіены ды інш. З намі былі яшчэ 8-ыя і 9-ыя класы. Уяўляеце, сняданак – малодшыя класы паелі, старэйшых няма. Чакаюць – няма. Абед – таксама няма. Вячэра – тое самае. На наступны дзень раніцай збіраюць нас у актавай залі. Новы дырэктар вельмі баяўся, усё казаў: «Ну, якія ў вас праблемы? Я толькі нядаўна прыехаў, я не ў курсе...» Напрад выйшла Іра Шкіндзерава (яе бацька быў ветэран вайны, заслужаны аршанскі чыгуначнік) і зачытала з трыбуны спіс патрабаванняў. Нам паабяцалі сабраць педагагічны савет і прыняць рашэнне. Мы пытаемся: «А нам потым скажаце?» Нам адказалі: «Так, вядома!»

Мы з радасцю пайшлі есці. А потым была выкарыстаная такая тактыка – працавалі з кожным паасобку, казалі: «Вы ж выпускны клас, вам трэба паступаць! Мы вам у характарыстыках напішам: калі вам патрэбны студэнт, які будзе бунтаваць, дык прымайце яго ў інстытут». Тут усе спалохаліся, дзяўчаты пачалі плакаць: «Што мы нарабілі! Цяпер мы ўсе не паступім у інстытут! Што рабіць, як жыць?» Але атрымалася так, што наш першы бунт супраць сваволі адміністрацыі прайшоў дарма.

## Пра вайсковыя ўрокі

Я скончыў школу-інтэрнат і адразу паступіў у Тэатральна-мастацкі інстытут. Характарыстыка ў мяне была дужа цікавая: «Мае свой упарты характар». А тады была такая завядзёнка: першы курс адвучышся – забіраюць у войска. І мяне забралі служыць. Вучэбка, верталётны полк, механік па ўзбраенні – чапляў бомбы, ракеты, рыхтаваў верталёты да вылету. А я ж быў пацыфістам. Псіхолаг у ваенкамаце казаў: «У яго ўстаноўка супраць арміі». Але пасля вучэбкі я патрапіў на вайну ў Афганістан – у паўночна-ўсходнюю зону. У Афганістане я вёў дзённік. Вядома ж, па-беларуску. Там былі ў асноўным расійцы – яны не разумелі, што я там пішу. Але аднойчы я трапіў на гаўптвахту. А начальнікам гаўптвахты быў прапаршчык Бельскі – беларус. Ён забраў мой дзённік і пачаў чытаць. Прачытаў, усё зразумеў і расказаў начальніку штабу палка, масквічу маёру Кулікову. Начальнік штабу мяне выклікае: «Радавы Пушкін, у вашым дзённіку ўтрымліваюцца думкі, якія супярэчаць палітыцы партыі і нашай дзяржавы ў гэтай краіне. Атрымайце яшчэ дзесяць сутак арышту!» А ў сваім дзённіку я пісаў тое, што бачыў: едзем мы па Кабуле, старыя жанчыны прыпадымаюць чадру і плююць у наш бок. Пасля 10 гадзінаў вечара машыны спяшаліся хутчэй вярнуцца на свае базы, бо распачыналася страляніна – ніхто не ведаў, хто і адкуль страляе. Расійцы едуць на машыне каля афганскае крамы, дзе на шасце вісяць футры і дублёнкі, і на хаду хапаюць усё гэта – афганцы перасталі вывешваць. Прапаршчыкаў афганцы называлі «цап-царап». Вось такія бытавыя рэчы я і запісваў у свой дзённік.

## Пра жыццёвыя прынцыпы

Пасля Афганістану я ўжо быў зусім іншым чалавекам – разняволеным...

Першыя пяць сутак я адседзеў за заклікі да ўдзелу ў Дзядах-88. Стаяў ля ўваходу ў інстытут і раздаваў машынапісныя ўлёткі. Мяне адсюль і забралі. На Дзяды я не трапіў – сеў на суткі. Я вырашыў не проста пратэставаць, а выказваць свой пратэст у мастацкай форме.

Я вырашыў зрабіць у інстытуце выставу, прысвечаную БНР (Беларускай Народнай Рэспубліцы). Выставу забаранілі. Нельга? Тады я вырашыў зрабіць яе на вуліцы! У філасофскім сэнсе БНР да гэтага часу застаецца неператузыдзеным узорам нашае дзяржавы. Гэта найвышэйшы пік. Хоць БССР і была прадстаўленая ў ААН.

Я зрабіў плакаты, папрасіў сяброў – надзьмулі шары, зрабілі бусла, узялі плакаты і рушылі... Тут нам перагарадзілі шлях міліцыянты.

Пасля акцыі я трапіў у Савецкі РАУС, з яго – у спецпрыёмнік-размеркавальнік.

За ўсе гады міліцыянты мяне ні разу не білі. Усе называлі Аляксандр Мікалаевіч. Можа, гэта павага да прозвішча Пушкін, можа, карэктнасць да мастака? Гэта прафесійныя іх правілы – заломваць рукі і цягнуць, але ні ў «варанку», ні ў камерах мяне не білі: «Арыштаваны, зайдзіце, выйдзіце...» Вось і ўсё. Але пасля падзеяў 25 сакавіка 1989 г. я вельмі сур'ёзна падумаў пра тое, што мне не варта больш правакаваць, весці за сабой іншых людзей, у якіх сваё жыццё – вучоба, жонка, праца, дзеці... Тады я даў сабе зарок на ўсё жыццё: рабіць усё ў адзіночку. У мяне цяпер прынцып – не цягнуць за сабой іншых. Я раблю пратэсты адзін.

## Пра фрэскі

З 1992 па 1996 год была праца над магілёўскімі фрэскамі ў касцёле Святога Станіслава. Вельмі цяжкая праца – рэстаўрацыя старога жывапісу, адскрабанне фарбы, прамыўка спіртам, пламбаванне выбоінаў. Беларуская каталіцкая грамада адрэстаўравала каля дзвюх з паловай тысячаў метраў фрэсак. Я таксама напісаў у стылі барочнага жывапісу некалькі сюжэтаў фрэсак: святы Антоній Падуанскі (самая мая лепшая фрэска ў Магілёве), святы Тадэвуш – памагаты ў справах безнадзейных, святая Цэцылія – патронка касцёльнай музыкі і спеваў і плафон-глорыя кардыналу Свёнтаку (тады якраз Папа Рымскі даў яму пачэснае званне кардынала) – кардынал прымае з рук Папы тыяру, а вакол душы ўсіх памерлых католікаў. Дарэчы, у гэтым касцёле вянчаўся старшыня БНФ Зянон Пазьняк, і там мы яго і намалявалі – на адной з катэдраў разам з іншымі выбітнымі дзеячамі беларускага Адраджэння, выявамі дзяржаўнасці (Канстытуцыя 1994 г., бел-чырвона-белы сцяг і герб Пагоня). Пасля гэтую фрэску завесілі велічэзнай прасцінай і напісалі «ідзе рэстаўрацыя», бо З.Пазьняк якраз тады эміграваў. Фрэска была завешаная паўтара года, цяпер можна яе паглядзець.

Жыць, будавацца і мець сям'ю вырашыў толькі на Радзіме, у Бабры. Вельмі прыемна, вельмі часта жыць на прыродзе. Вось так: жыць, пісаць карціны, афармляць цэрквы ды касцёлы і быць грамадзянінам.

## Пра перформанс 21 ліпеня 1999 году

Цяпер пра 21 ліпеня – дзень, калі скончыліся легітымныя паўнамоцтвы Лукашэнкі... Я ведаў, што Лукашэнка будзе нацэлены на ўзурпатарства, г.зн. пасля 21, абапіраючыся на Канстытуцыю 1996 г., рабіць выгляд, што нічога не здарылася. Я прыдумаў вельмі характэрную і нацыянальную рэч: «Куды ты нас пасадзіў, туды і мы цябе пасадзім». Вельмі доўга думаў: што магло б характарызаваць Беларусь як аграрны прыдатак (памятаеце свінакомплексы – палітыку Слюнькова). І я прыдумаў вобраз вазка з гноем! Чырвоны яркі савецкі вазок, гной, навязаная ім атрыбутыка – вось ягоны ўнёсак у гісторыю. А мог бы быць як Усяслаў Чарадзей, мог бы зацьміць першых прэзідэнтаў БНР, калі б зрабіў рэальную магутную Беларусь, мог пачаць новую гісторыю Беларусі. БНР бы тады лічылі першым кавалкам гліны, з якога вылепілі дзяржаўнасць. Апрача мяне, пра гэты перформанс ведалі толькі два чалавекі. Мяне папярэдзілі: «Ёсць адна рэч непрыемная – могуць страляць па табе». Я пайшоў, пракансультаваўся з чалавекам, які служыў у дывізіі Дзяржынскага, і з ваенным псіхолагам. Я ім прыкладна абмаляваў сітуацыю. Сказаў: «Уявіце аб'ект пад аховай. Раптам да яго хуценька коціцца вазок, і чалавек, спяшаючыся нешта зрабіць, прэ яго перад сабою... Вашыя дзеянні як паставога?» Мне адказалі: «Першая думка – дурань, другая – раптам там тол, раптам гэта камікадзэ, які хоча зрабіць выбух? Рэакцыя – папераджальны стрэл, потым страляць па нагах, але, можа, і забойства. Таму што чалавек, які ахоўвае важны аб'ект, ён не падумае, што ў вазку гной». Самая вялікая небяспека для мяне была, што вартавы будзе нервовы і пачне страляць. Калі я пачаў каціць вазок, карэспандэнты пачалі здымаць (я сказаў пра свой намер толькі аднаму чалавеку, які праявіў журналісцкую салідарнасць, але не выдаў мяне загадзя). Міліцыянер аказаўся вельмі малады, ён разгубіўся, выбег мне насустрач і пачаў мяне спыняць. Я зрабіў усё што задумаў – высыпаў гной, уторкнуў вілы.



Фота Ул.ШЛАПАКА

Мяне адразу забралі. У мяне быў вельмі добры настрой. Біяграфічныя дадзеныя я не стаў называць, сказаў: «Я чалавек з народу. Пачакаем, пройдзе дзень, два, тры – можа я назаву сябе». Яны ўразіліся і праз кожныя 15 хвілінаў паўтаралі: «Кажы, хто ты!» У мяне не было ніякіх дакументаў, толькі 100 тысячаў рублёў на зваротны білет да Бабра. Я быў чыста апрануты, паголены. Калі прыйшоў начальнік аховы будынку адміністрацыі прэзідэнта, я яму сказаў: «У мяне добры настрой, воля Бога была, каб я зрабіў гэтую рэч. У Бога мы верым, таму і пратэст у нас такі хрысціянскі – не бомба, не тол. Я ведаў, на што іду, што маглі страляць». Ён сказаў: «Вось менавіта гэта я і хацеў у вас удакладніць: ці ведалі вы, што магло быць?» Потым вечарам міліцыянты мне ўжо казалі: «Ведаем мы цябе, ты – мастак Пушкін. Прайшло паведамленне». Мяне адпусцілі да суду, я вярнуўся ў Бобр на начной электрычцы.

**Запісала Паліна СЦЕПАНЕНКА (па матэрыялах ПЦ «Вясна»)**



Фота Ул.ШЛАПАКА

**СПАДЧЫНА**

# Узгодненае руйнаванне старога Мінску

Рэспубліканскія газеты ў мінулым годзе не адну публікацыю прысвяцілі намеру Камітэту архітэктуры Мінгарвыканкаму на чале з галоўным архітэктарам Мінску А.Чадовічам пабудаваць аўтапаркінг на месцы гістарычнай забудовы па вуліцы Нямізе ў Мінску. Пасля выказванняў спецыялістаў самага рознага напрамку, якія адзначалі заганнасць такой ідэі як з экалагічнага, так і з культурнага боку, на пэўны час нашэсце на Нямігу было спынена.

Аднак намер зруйнаваць унікальны асяродак археалогіі працягвае існаваць. На адной з прэс-канферэнцый увосень мінулага году на пытанне аб тым, ці можна лічыць справу будаўніцтва паркінгу на Нямізе вырашанаю, галоўны архітэктар Мінску адказаў літаральна наступнае (дыктафонны запіс): «Вы няправільна зразумелі. Пратэст грамадскасці быў разгледжаны і грамадскасць зняла свой пратэст. Таму што тое, што казалі... Што мы зруйнавалі? Там няма нічога, акрамя старых гнілых кіёскаў. Далей. Паднялі пытанне, што там калісьці стаяла сінагога. Сустрэліся з абшчынай, паказалі, дзе яна стаяла і як яе магчыма аднавіць. Яны зразумелі – гэта нерэальна. Знайшлі кампраміс: а як усё ж увекавечыць гэту памяць – першая каменная сінагога ў Мінску. Так, будзе пастаўлены ў складзе гэтага комплексу памятны знак аб гэтым. Значыцца, з другога боку, абшчына папрасіла неяк, ну, дзесьці зрабіць невялікае памяшканне, дзе яны як бы маглі свае традыцыі працягваць. І гэта дамовіліся. І ўсе пратэсты, якія ўзнікалі ў грамадства, калі я вас правільна зразумею, катэгорыя... група дзеячаў мастацтваў напісала вялікае і адкрытае пісьмо, і прамы зварот у горад, і... да ўраду, і... да прэзідэнта... Значыцца, былі сустрэчы і ў выніку... Да, і яшчэ... у Нацыянальны сход. І, у выніку, зняты пытанне. А што будзе пабудавана, як будзе гэта выглядаць, і як гэта закране... закране старую частку гораду... вось гэта... пачнецца абмеркаванне на горадабудаўнічым савеце. Гэта першы савет, які пачне гэту тэму абмяркоўваць. Не тэму, дакладней, а канкрэтную прапанову абмяркоўваць. Мы дамовіліся, што на гэтым не закончыцца абмеркаванне. Будзе яшчэ абмеркаванне ў Камітэце па ахове гістарычна-культурных каштоўнасцяў, дзе вузкія спецыялісты разгледзяць гэту праграму: як гэта будзе пераклікацца з гісторыяй і з захаваным цэнтрам гораду».

Пакінем некаторыя запэўніванні з гэтага адказу на сумленні галоўнага архітэктара. Нягледзячы на тое, што ў мінулым годзе Міністэрства культуры павысіла ахоўны статус Нямігі, надаўшы ёй (як аб'екту міжнароднага значэння) першую ахоўную катэгорыю, намер пабудаваць на ёй гараж не знік. Камітэт па архітэктуры гораду працягвае ў сродках масавай інфармацыі распаўсюджваць інфармацыю аб тым, што будаўніцтва гаража непазбежна. Дэманструецца новы праект гаража. Як паведамілі ў Таварыстве аховы помнікаў, новы праект, як і папярэдні, не прайшоў належнай экспертызы. Археолагі і гісторыкі яго не бачылі і не аналізавалі. Зрэшты, пакуль увага грамадскасці адцягваецца на будаўніцтва паркінгу на рагу вуліцы Камсамольскай і той жа Нямігі, ціха пачалося будаўніцтва новага офіснага будынка, які цалкам парушае гістарычны характар гэтай часткі старога Мінску...

Тысячы аўтамабіляў мінчукоў стаяць без аховы пад адкрытым небам. Праблема, якая ўзнікла з захоўваннем аўтатранспарту, сапраўды патрабуе вырашэння. А ў тым ліку і для аўтаматараў з цэнтру гораду. Для іх павінны будавацца падземныя аўтасховішчы за межамі ахоўнай зоны. У Камітэце па архітэктуры і ў Мінкультуры добра ведаюць пра гэта, але працягваюць «прабіваць» небяспечны праект. Хто ж такі моцны наверсе, каб не зважаць на меркаванні сотняў спецыялістаў і гнуць сваё?

**Ясь КАСІЛОВІЧ**

# Рэканструкцыя без «разынкі»

*У сталіцы паболела яшчэ на адзін даўгабуд: распачынаецца рэканструкцыя плошчы Незалежнасці. Перайтварэнні на ёй разлічаныя на бліжэйшыя 3-4 гады, аднак колькі на гэта спатрэбіцца сродкаў і наагул што ў выніку з самай вялікай плошчы ў Еўропе атрымаецца, пакуль пэўна не ведаюць ні аўтары праекту, ні будаўнікі, ні мінская мэрыя.*

За аснову рэканструкцыі плошчы Незалежнасці ўзяты праект інстытуту «Мінскграда», які летась перамог у конкурсе, абвешчаным гарадскім Камітэтам архітэктуры. Гэта быў ужо трэці конкурс, які праводзіўся з мэтай пошуку канцэпцыі новага выгляду галоўнай плошчы Мінску. Першы конкурс адбыўся яшчэ ў 1970-ыя гады, а другі – напачатку 1990-ых. Але тыя праектныя прапановы так і засталіся гісторыяй архітэктурнай думкі. У леташнім конкурсе бралі ўдзел чатыры праектныя арганізацыі, кожная з якіх прадставіла па два свае варыянты рэканструкцыі плошчы. На любы густ: выбірай – не хачу.

Творчая група інстытуту «Мінскпраект», напрыклад, прапанавала зрабіць «беларускі Арбат»: саму плошчу Незалежнасці, а таксама частку праспекту Скарыны да цырку аддаць пад пешаходную зону, а транспарт пусціць пад зямлю. Плошча тады б ператварылася ў вялікую рэкрэацыйную зону з шматузроўневай сцэнай, вялікім плазменным экранам, музычным фантанам, лаўкамі, скверам. Сквер, што размяшчаўся тут да нядаўняга часу і які цяпер разбураецца, павінен быў служыць месцам адпачынку. Але дарога да яго пралягала праз шчыльную плыню аўтамашын, ды і пасядзець там, калі вакол усё гудзе, асабліва не хацелася. На падземным узроўні, паводле гэтага праекту, меліся размясціцца шматпавярховы гандлёвы цэнтр, аўтастаянка, музей Мінску і выстаўныя залі. Такім чынам, плошча Незалежнасці сталася б цэнтрам баўлення вольнага часу менчукоў. Задума адпавядае запатрабаванням і стылю XXI стагоддзя. Але мінскія ўлады, відаць, палічылі яе фантастычнай. Трэба меркаваць, збольшага праз недахоп грошай і праз паняверкі, што пад такі праект рэканструкцыі плошчы Незалежнасці могуць выдзеліць буйныя інвестыцыі, без якіх не абысціся.



Фота Ул. ШЛАПАКА

● Праект рэканструкцыі плошчы Незалежнасці, які прадугледжвае стварэнне на ёй і на частцы праспекту Скарыны «мінскага Арбату»

Архітэктары «Мінскграмадзянпраекту» наадварот прапанавалі ператварыць плошчу Незалежнасці ў бізнесовы цэнтр сталіцы. У прыватнасці, пабудаваць тры вялікія (па 30 паверхаў кожны) хмарачосы: гатэльны комплекс на базе існага гатэлю «Мінск», на базе будынку Мінгарвыканкаму – адміністрацыйна-офісны цэнтр, а за галоўным корпусам педагагічнага універсітэту – велізарны культурна-адукацыйны цэнтр. Транспарт, паводле праекту, меркавалі пусціць пад зямлю, тамсама павінна была размясціцца аўтастаянка.

Былі праекты і больш сціплыя, без вялікіх узлётаў фантазіі, але ў выніку перамога была прызнаная за «Мінскграда». Пераможца прапаноўваў, калі ўжо займацца рэканструкцыяй плошчы, то падысці да гэтага радыкальна. Так, меркавалася, што цэнтр плошчы павінен быць аддадзены пад суперсучасны будынак са шкла і металічных канструкцыяў, які меўся стаць цэнтральным будынкам плошчы, гэткай «разынкай», складзенай з трох аднолькавых кубічных частак, звязаных паміж сабою галерэямі. У адным «кубе» размясціўся б інфармацыйны цэнтр, у другім – выставы, у трэцім – гандлёвы цэнтр, а ў галерэях-пераходах – рэстарацыі і кавярні, дзе наведнікі маглі б і адпачыць, і падзівіцца на краявіды Мінску. Транспартная развязка з плошчы, па задуме аўтараў праекту, павінна была б замяніцца адной дарогай уздоўж будынкаў Мінгарвыканкаму і БДУ. А астатняя плошча адводзілася пад зону для адпачынку.

Хоць гэтая канцэпцыя бачання будучыні плошчы была прызнаная найлепшай, аднак адразу па завяршэнні конкурсу было абвешчана, што цалкам, як ёсць на сёння, задума ейных аўтараў рэалізавана ўсё роўна не будзе і праект трэба яшчэ перапрацоўваць. За год яго «падчысцілі», прывялі ў адпаведнасць з фінансаваннем, што рэальна пад яго можна знайсці ў бюджэце. І ў выніку ад першапачатковай задумы амаль нічога не засталося. Умоўна рэканструкцыю, якая днямі распачалася, можна разбіць на дзве этапы: наземны і падземны. З наземным плануюць разабрацца цягам гэтага году, і пачнецца ён з рамонту падземнага пераходу каля будынку Галоўпаштамту, які зачыняць для пешаходаў ужо 8 красавіка. Разам з тым пад плошчай пачнецца будаўніцтва яшчэ двух новых падземных пераходаў: адзін пройдзе ад метрапалітэну да Дому ўраду, а другі – каля педагагічнага універсітэту. Такім чынам, бакі плошчы будуць звязаныя паміж сабою падземнымі пераходамі, а пешаходы пазбавяцца галаўнога болю – як дабрацца на супрацьлеглы бок плошчы, што раскінулася на 6,5 гектараў, без рызыкі для жыцця ад чарод аўтамабіляў. Цяперашні сквер і аўтастаянку прыбяруць, а кальцавы рух транспарту заменіць прамая аўтадарога цераз плошчу ад праспекту Скарыны да вуліцы Маскоўская. На першым паверсе будынку метрапалітэну размесціцца пункты гандлю і паслугаў.

Гэта прыкладна ўсё, на што хопіць бюджэтных грошай. На этап падземных работ грошай на дадзены момант няма – спадзеў толькі на сродкі інвестараў. Па планах, пад плошчай мае з'явіцца гандлёвы комплекс на 10 тысяч квадратных метраў з аўтастаянкай. Але ці будзе ён увогуле і колькі паркавачных месцаў будзе мець аўтастаянка, залежыць толькі ад інвестыцыйных аб'ёмаў, якія ўлады змогуць знайсці. Пакуль што, па папярэдніх намерах, будаўніцтва пад зямлёю разлічваецца гады на два-тры.

Такім чынам, «падрэзаўшы» крылы першапачатковай задуме архітэктараў, мэрыя і на рэшце праекту не змагла наскрэбсці грошай. Можа тады ўвогуле не варта было распачынаць гэтую справу з рэканструкцыяй плошчы? Калі ўжо брацца за нешта, дык рабіць гэта трэба грунтоўна, а то і шыкоўна, а не абмяжоўвацца двума-трыма штрыхамі. Здаецца, амаль усе менчукі пагаласавалі б за з'яўленне на плошчы і частцы праспекту Скарыны пешаходнае, шпацырнае зоны. Бо цяперашняя задума ўладаў усё роўна праблемы архітэктурнага планавання плошчы не вырашае: яна застанецца занадта вялікай і без «разыначкі» – аб'екту, які прыцягваў бы да сябе ўвагу як жыхароў гораду, так і турыстаў. Калі не ўлічваць, натуральна, помнік Леніну, які прыбіраць цягам рэканструкцыі не збіраюцца.

**Алена ЛАБАНАВА**

# Кланаванне БТ не будзе

*Больш за тыдзень таму дырэкцыя новага беларускага каналу прадставіла праект Агульнанацыянальнага тэлебачання. Дырэкцыя каналу дэкларуе, што перадачы новай тэлевізіі стануць самымі рэйтынгавымі ў Беларусі. Аднак паранейшаму цяжка паверыць, што нешта якасна новае зможа парушыць манаполію БТ у прасторы візуальных электронных СМІ.*

Генеральным дырэктарам АНТ стаў Андрэй Астраух, прэзідэнт прыватнай тэлевізійнай кампаніі ФІТ, якая ажыццявіла шэраг праектаў як на БТ, так і на расійскіх каналах. Менавіта да яго мы звярнуліся з пытаннямі пра нававтвораны беларускі канал.

***– Як так атрымалася, што прыватная тэлекампанія ФІТ стала адным з заснавальнікаў АНТ?***

– ФІТ працуе на беларускім рынку з 1991 году, і за гэты час мы паспяхова рэалізавалі каля 30 тэлевізійных праектаў. Сярод іх шмат вядомых: «Крымінальная хроніка», «Абібок», «*Праспект*» ды іншыя. Акрамя таго, кампанія даўно працуе з расійскімі каналамі, у прыватнасці з *ОРТ*. За тры гады мы супольна зрабілі 36 серый «Паскоранай дапамогі». На сёння аб'ектыўна ФІТ – найбуйнейшы прыватны вытворца тэлевізійных праграм у краіне.

***– Вядома, што новы канал будзе вяшчаць на частаце ОРТ: праграмы ОРТ плюс мясцовыя навіны. Гэта значыць, беларускія навіны замест расійскіх?***

– Не замест, а разам з расійскімі навінамі. Справа ў тым, што паміж Масквой і Мінскам існуе розніца ў часе, і ў Беларусі праграмы *ОРТ* выходзяць на гадзіну раней. Мы выкарыстаем гэта: будзем запісваць праграмы і даваць іх у эфір на гадзіну пазней. Такім чынам, розніца ў часе ліквідуецца, а мы атрымаем гадзіну для нашых навінаў, мы зможам глядзець праграмы *ОРТ* у больш зручны час. Адзінае, што застанецца без зменаў – гэта праграма «*Время*», таму што нашы гледачы ўжо прызвычаіліся да інфармацыйнай праграмы а 20-й гадзіне. Таму мы не будзем яе ссоўваць, бо не хочам рабіць нічога няўручнага. Свае навіны ў гэтым выпуску мы дамо пасля. Праграма будзе называцца «Нашы навіны». Што тычыцца перакрыцця расійскіх праграм, то я лічу, што ў найбліжэйшай будучыні такой неабходнасці не ўзнікне.

Прынцып сотавага вяшчання, які мы збіраемся выкарыстаць, вельмі распаўсюджаны. Па такой сістэме, з улікам розніцы ў гадзіну, даўно працуюць у расійскіх рэгіёнах і ў іншых буйных тэлекампаніях розных краінаў. Прыклад – «*Вести*» на *РТР*: напачатку ідзе федэральны выпуск, затым «*Вести региона*». Мы зробім нешта падобнае для Беларусі.

Да таго ж наяўнасць такой сістэмы вяшчання забяспечыць вялікую колькасць тэлегледачоў для нашых навінаў. Бо, згодна з статыстыкай, 78% жыхароў Беларусі глядзяць менавіта перадачы *ОРТ*.

***– А як наконт нашых вядучых і журналістаў. Ці не будзе адчувацца дысананс паміж нашымі і маскоўскімі перадачамі?***

– Натуральна, што гэтага дысанансу мы пастараемся пазбегнуць. Зараз мы для гэтага шукаем кадры, вядучых і журналістаў, хочам, каб новае тэлебачанне было як мага больш прафесійным і адпавядала тым тэхналогіям і стандартам, якія мы ўводзім. І другое – вельмі некарэктна, на мой погляд, крытыкаваць сёння нашае тэлебачанне, БТ у прыватнасці, за непрафесіяналізм. Бо ўсё, што ў нас дагэтуль было на тэлевізіі, звязана з БТ. Мы ўсе выйшлі адтуль, і таму каментаваць цяпер працу БТ я лічу няправільным ні з чалавечага, ні з этычнага пункту гледжання.

***– А як наконт «Дырэкцыі перспектыўнага вяшчання»? Не сакрэт, што канфлікты з журналістамі на БТ, якія не працуюць у эфіры, прывялі да таго, што шмат хто з іх апынуўся адарваным ад працы.***

– Насамрэч гэтае пытанне – калясальная праблема. Нідзе ў свеце на тэлебачанні такіх штатаў, як на БТ, – 3 000 чалавек – няма. Людзей, асабліва творчых прафесій, неабходна скарачаць – гэта натуральны працэс. На тэлебачанні любая новая ідэя вельмі хутка выпрацоўваецца. Таму неабходная ратацыя кадраў і ідэй, змены, рух і новыя праекты ўвесь час. Тады тэлебачанне будзе жывым і цікавым.

А трымаць людзей на ТВ толькі дзеля таго, каб яны дапрацавалі да пенсійнага веку, а пасля патрабаваць, каб праграмы былі цікавыя, – гэта не правільна. Ува ўсім свеце гэтая праблема вырашаецца пры дапамозе кантрактнай сістэмы. Пакуль ты можаш працаваць «на эфект», ты працуеш, калі не – лепш знайсці іншую працу альбо зрабіць нешта новае. Правілы тут досыць жорсткія.

Нам, у адрозненне ад БТ, такі вялікі штат не патрэбны. *ОРТ* – гэта адзін з найлепшых праграмных прадуктаў. Мы працуем супольна, і таму вялікіх аб'ёмаў уласнага вяшчання мы не плануем. У гэтым пакуль няма неабходнасці.

***– БТ-2 будзе іншым, чым БТ, больш цікавым і сучасным?***

– Так. Кланаванне БТ не будзе. Увогуле саму гэтую назву «БТ-2» мы імкнемся не ўжываць. Наш канал называецца АНТ – Агульнанацыянальнае тэлебачанне. У сваёй працы мы робім акцэнт на трох асноўных момантах. Існуе тры слоганы ўсёй нашай дзейнасці. Першае – «*Не замест, а разам*»: мы працуем разам з *ОРТ*, не збіраемся нічога перакрываць, а наадварот, зрабіць праграмы *ОРТ* больш зручнымі для прагляду ў Беларусі. Другое – «*Нас яднае АНТ*»: мы лічым, што, скарыстаўшы традыцыі *ОРТ* як самага масавага тэлебачання, мы хочам зрабіць свой канал, разлічаны на самую шырокую аўдыторыю. Трэцяе – «*Мы выбіраем з найлепшага*»: усё, што тычыцца тых праграм, якія мы збіраемся паказваць. *ОРТ* – гэта адзін з найлепшых у свеце каналаў, і ён паказвае найлепшыя сусветныя стандарты.

***– Адкрыццё АТН, на вашую думку, падыме агульны ўзровень беларускага тэлебачання?***

– Так, безумоўна, узровень палепшыцца, але ў ацэнцы ўзроўню нашага тэлебачання трэба быць даволі асцярожным. Не зусім карэктна цяпер параўноўваць беларускія каналы з расійскімі. Трэба вельмі добра разумець, што гэты ўзровень залежыць ад колькасці ўкладзеных сродкаў, а гэтыя лічбы ў Беларусі і Расіі не супастаўляльныя. Праграмы, кшталту «*Слабое звено*», «*Поле чудес*» ці «*Как стать миллионером*», не з'яўляюцца ўласнасцю маскоўскіх каналаў. Канал набывае фармат папулярнай праграмы, якая, дарэчы, адначасова можа ісці адразу ў 60 краінах. Такім чынам адбываецца глабалізацыя сусветнага тэлебачання. Але мы да гэтага працэсу пакуль не можам падключыцца, бо гэтыя фарматы каштуюць вельмі вялікія грошы.

У Беларусі сітуацыя ўвогуле мае ненармальны характар. Немагчыма ўявіць сабе ніводнай іншай дзяржавы, дзе б у агульнанацыянальным эфіры жылі тры каналы суседняй краіны. Хай сабе нават сяброўскай, але суседняй. Нерэальна, каб, напрыклад, у Англіі вяшчалі тры амерыканскія каналы, хоць і мова агульная. Ці каб у Расіі ішло БТ, якой бы якасці яно ні было.

Таму я лічу, што крок да стварэння АНТ – гэта крок у правільным кірунку. Мы не можам жыць у чужой інфармацыйнай прасторы, мы павінны ствараць сваю ўласную. І гэта мэта нашай дзейнасці.

Гутарыла **Маша САВУШКІНА**



НАВУКА

## Бывай, планета Зямля

Згодна з прадказаннямі некаторых экспертаў *NASA*, чалавечая раса пачне асваенне космасу прыкладна праз паўсотні гадоў. Тыя, хто дасягне зададзенай мэты, будуць унукамі і праўнукамі касманаўтаў, якія пачалі падарожжа.

Сёняшнія сродкі руху ў космасе занадта павольныя для таго, каб вывесці прадстаўнікоў чалавецтва за межы нашай Сонечнай сістэмы, таму патрэбна ракета, здольная развіваць хуткасць, эквівалентную хоць бы 10% ад хуткасці святла (300 000 кіламетраў у секунду).

Пасажыры гэтага карабля павінны будуць стварыць своеасаблівае грамадства, бо палёт будзе доўжыцца шмат гадоў. Пры названай хуткасці шлях ад Зямлі да найбліжэйшай да нас сістэмы ? Альфа-Цэнтаўра зойме каля 43 гадоў. І яшчэ каля ста гадоў спатрэбіцца на поўнае тармажэнне. Час немалы, і таму супольнасць міжгалактычных вандроўнікаў будзе нагадваць старажытныя племянныя адносіны з падзелам працы, сацыяльнай іерархіяй і падпарадкаваннем малодшых старэйшым.

Іншы варыянт – адпраўка ў космас толькі жанчын, якія павязуць з сабою прабіркі са спермай, каб гарантаваць з'яўленне нашчадкаў у часе палёту. Станоўчы момант такога рашэння – меншая вага карабля.

Пераадольваючы сённяшнія тэхналагічныя перашкоды, падарожжа да іншых планетных сістэмаў з кожным годам усё менш нагадвае фантазію. Згодна з навуковым прагнозам, Сонца раней ці пазней скончыць сваё існаванне, а разам з ім загіне і наша планета. Людзям прыйдзецца паклапаціцца пра пошукі новага месца жыхарства. Але, дзякуй богу, гэты час не надта блізкі.

Cron

ФЭСТЫ

## Фестываль «Мінская вясна'2002»

Учора ў філармоніі адкрыўся 18-ы міжнародны фестываль «Мінская вясна'2002».

Ён будзе ісці два тыдні і ўключае 21 канцэртную праграму. У Мінску, у прыватнасці, выступяць фартэпіянны дуэт лаўрэатаў прэміі Дуо Кадама (Японія) Генадзя Пысціна і Ігара Цыганкова з Новасібірску і струнны квартэт імя Шастаковіча з Масквы. Пройдуць канцэрты вядомага пецярбургскага піяніста Уладзіміра Мішчука і вечар скрыпічных мініяцюр народнай артысткі Грузіі Марыны Яшвілі. Сваю новую праграму прадставіць Дзяржаўны канцэртны аркестр пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга. Акрамя таго, у рамках «Мінскай вясны'2002» адбудуцца два юбілейныя творчыя вечары – заслужаных артыстаў Беларусі Уладзіміра Перліна (да 40-годдзя творчай дзейнасці і 60-годдзя з дня нараджэння) і Генадзя Забары (да 30-годдзя творчай дзейнасці і 50-годдзя з дня нараджэння).

Паводле словаў мастацкага кіраўніка Беларускай дзяржаўнай філармоніі Юрыя Гільдзюка, знамянальнай падзеяй фестывалю стане канцэрт ансамблю салістаў «Класік-Авангард» пад кіраўніцтвам Уладзіміра Байдава і меца-сапрана Алёны Рубін (Санкт-Пецярбург). Яны выканаюць творы пачатку і канца XX стагоддзя, у тым ліку «Песню пра зямлю» Густава Малера, якая ў гэтай версіі раней у Мінску не выконвалася, а таксама творы сучаснага беларускага кампазітара Віктара Капыцька, частка з якіх таксама прагучыць упершыню.

Ва ўрачыстым канцэрце-адкрыцці 4 красавіка, прысвечаным 120-ым угодкам з дня нараджэння Янкі Купалы, возьмуць удзел Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр пад кіраўніцтвам Аляксандра Анісімава, Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла і народны хор.

**Лавінія АРЭШКА**

# Найвялікшыя садысты свету

*Пасля нападу тэрарыстаў-самазабойцаў на вежы-блізняты ў Нью-Йорку адзін з каментатараў тэлебачання ЗША адзначыў, што раней слова «злосць» больш стасавалася з фільмамі жахаў, чым з галоўнай навіной дня. Але дастаткова толькі зазірнуць у мінуўшчыну, каб убачыць, што зло суправаджала людзей заўжды і паўсюдна. Для ілюстрацыі гэтага рэальнымі фактамі журналістка Міранда Твіс апублікавала ў Англіі сваё публіцыстычнае даследаванне «Самыя жорсткія мужчыны і жанчыны ў гісторыі чалавецтва». Вось крыху звестак пра зверскія ўчынкі некаторых персанажаў з гэтага змрочнага даведніка, якія сведчыць пра лёгкасць жахлівага ператварэння людзей у пачвараў.*

**Калігула**. Вялізная галерэя вытанчаных зладзеяў новай эры бярэ пачатак з двух рымскіх імператараў – Калігулы і Нерона. Абодва гадаваліся сярод такога кашмару, што з дня нараджэння былі асуджаныя на бязлітасную жорсткасць.

Калігула цешыўся сцэнамі пакаранняў, яму падабалася



вячэраць у атачэнні мужчын і жанчын, якія праз дасведчанасць ягоных катаў паміралі павольна. Наўрад ці магло здарыцца інакш: маленькі хлопчык бачыў, як памёр, атручаны, ягоны бацька, як старэйшага брата прымусілі самому сабе перарэзаць горла, а маці і другі брат сканалі з голаду. Як дзіця з такімі карцінамі ў памяці вырасце добразычлівым чалавекам? Жывымі засталіся толькі сёстры імператара, з якімі Калігула рэгулярна і наўмысна публічна меў сексуальны кантакт.

На працягу свайго кароткага праўлення (37 – 41 гады н.э.) ён перажыў некалькі працяглых прыпадкаў вар'яцтва, у выніку чаго нават абвесціў сябе богам, надаў свайму каню званне сенатара і ў літаральным сэнсе прывёў яго ў Сенат, а потым назваў жывёліну жрацом храму ў свой гонар. А яшчэ Калігуле прыносіла задавальненне прыніжаць сенатараў, схіляючы іхніх жонак да прастытуцыі.

**Нерон**. Гэты рымскі валадар добра вядомы з твораў, прысвечаных эпосе, калі ён правіў Рымскай Імперыяй (54 – 63 гады н.э.). Ягоная маці – Агрыпіна – праславілася як адна з самых бязлітасных жанчын Рыму. Яе адправілі ў ссылку, калі Нерону было толькі два гады. Хлопчык застаўся у адной са сваіх цётак, якая ніколі пра яго не клапацілася і трымала ў галечы.

Нерону падабаўся гвалт, ён не ведаў, што такое літасць, але ў першыя некалькі гадоў свайго панавання кіраваў імперыяй разумна, прыслухоўваючыся да парадаў свайго настаўніка Сенекі, якога, дарэчы, пазней забіў. Ён падзяляў любоў большасці рымлянаў да жорсткіх відовішчаў, але лічыцца ў гісторыі надзвычай адыёзным з-за ганенняў на першых хрысціянаў. На загад Нерона іх выстаўлялі па-над дарогамі на крыжах ці аддавалі на разарванне драпежнікам у цырку, а па начах ён скарыстоўваў прыхільнікаў хрысціянства ў якасці жывых паходняў для асвятлення парку вакол свайго палацу.

Асабліва ж ён ненавідзеў сваіх сваякоў. Аднак забіваў іх, кіруючыся канкрэтнымі падставамі: ён атруціў свайго брата, каб не дазволіць яму заняць імперскае месца; падаслаў забойцаў да маці, калі тая арганізавала змову супраць яго; забіў сваю цётку, якая кінула яго ў дзяцінстве, каб атрымаць ейныя зямельныя ўладанні; і пакараў смерцю сваю жонку Актавію, каб ажаніцца з Папеяй.

Раскрыўшы змову супраць сябе, Нерон загадаў забіць сотні сенатараў, арыстакратаў і прэтарыянцаў. Кінуты войскамі, Сенатам і гвардыяй, ён схаваўся ў маёнтку ў прадмесці Рыму, дзе яго адшукалі і прымусілі скончыць жыццё самагубствам.

**Іды Амін Дада**. У XX стагоддзі таксама не было недахопу ў агідных персанажах на сцэне «вялікай гісторыі». Да Гітлера, Менгеле, Сталіна, Пол Пота трэба дадаць Іды Амін Даду, які нарадзіўся ў 1928 годзе. Гэты дыктатар з 1971 па 1979 год правіў Угандай.

Ён першы загадаў перада-



ваць смяротныя пакаранні сваіх ворагаў у прамой трансляцыі па тэлебачанні, што напоўніла жахам кожны дом краіны. Ён здзекаваўся з трупа адной са сваіх жонак і прымушаў яе сына глядзець на гэтае злачынства. Гэта ён трымаў у халадзільніку адсечаную галаву свайго военачальніка – генерала Сулеймана Хусейна – і любіў паразмаўляць з ёй. Напрыканцы ягонага праўлення ў 1979 годзе Дэпартамент дзяржаўных следстваў, які праславіўся надзвычайнай лютасцю, знішчыў 300 000 угандыйцаў – аднаго на кожныя 60 жыхароў краіны.

Адразу па захопе ўлады з дапамогай ваенных Амін разгарнуў кампанію генацыду прадстаўнікоў плямёнаў і тых афіцэраў, якія не выказвалі яму павагі. Некаторыя з іх былі заколатыя штыкамі, нехта раздушаны танкамі, іншых скарыстоўвалі ў якасці мішэняў пры навучанні стральбе. За першыя пяць месяцаў панавання Амін пакончыў з большасцю ваенных прафесіяналаў дзяржавы.

Затым дайшла чарга і да цывільнага насельніцтва. У краіне здзяйсняліся таямнічыя забойствы тысяч жыхароў. Пасля выканання забойства дэпарта-



мент следстваў інфармаваў удоваў, што іхныя мужы сканалі пры загадкавых абставінах, і патрабаваў заплаціць 200 даляраў, калі ім хочацца ўбачыць трупы забітых.

Трупы тых, пра каго ніхто не цікавіўся, выкідалі ў возера Вікторыя. Некаторых мерцвякоў з'ядалі кракадзілы, астатніх зносіла да высотнай плаціны гідраэлектрастанцыі. Угандыйцы ведалі, што калі ў дзвюх найлепшых гасцініцах у Кампале гасне святло – гэта азначае, што насосы на станцыі засмеціліся рэштамі трупаў.

Сакрэтная паліцыя Аміна звычайна забівала сваіх ахвяраў «творча». Часцяком паліцэйскія каты адразалі кускі мяса ў адных зняволеных і прымушалі іншых есці яго ці сырым, ці прыпечаным. Амін выдаў дэкрэт, каб пакаранні адбываліся хутчэй, без гэтакіх пакутаў. Арыштаваным абяцалі літасць, калі яны змогуць забіць ударам молата іншага зняволенага, закаванага ў ланцугі. Калі такі кат выконваў сваю задачу, яго самога закоўвалі ў ланцугі, каб наступны такім жа чынам быў падманутым ў сваіх спадзяваннях захаваць жыццё.

У 1979 годзе армія і грамадзянскія фармаванні арганізавалі змову, каб пазбавіць дыктатара. Аміну ўдалося ўцячы на прыватным самалёце ў Лівію. Цяпер ён жыве паблізу Мекі і вядзе камфортнае існаванне ў якасці госця каралеўскай сям'і Саудаўскай Аравіі.

Вось якіх істотаў нараджае часам той ці іншы народ. Ёсць над чым задумацца, углядаючыся ў цэмру псіхалогіі гэтай пароды людзей, якая імкнецца да найвышэйшай улады.

**El Mundo, Іспанія**

НАГОДА ЎСПОМНІЦЬ

### 5 красавіка

**1874.** У аўстрыйскай сталіцы Вене адбылася першая пастаноўка аперэты Штрауса «Кажан».

**1895.** Оскар Уайльд прайграў у судзе маркізу Куінсберы справу па абвінавачванні ў паклёпе; той, абураны сяброўствам пісьменніка з ягоным сынам, у сваю чаргу абвінавачваў Уайльда ў гомасексуалізме.



**1910.** На чыгуначных вакзалах у Францыі афіцыйна забароненыя пацалункі.

**1943.** У складзе Чырвонай Арміі пачала змагацца з фашыстамі эскадрылля французскіх лётчыкаў «Нармандыя». Неўзабаве эскадрылля займела падвойны назоў «Нармандыя-Нёман», бо вяла ваенныя дзеянні на тэрыторыі нашай краіны. Два пілоты з гэтай эскадрыллі сталі Героямі Савецкага Саюзу.

**1900.** Нарадзіўся актор Спенсер Трэйсі, які першы двойчы запар атрымаў «Оскара» за найлепшую ролю.

### 6 красавіка

**1327.** У Авіньёне вядомы італьянскі паэт Франчэска Петрарка, якому тады было 20 гадоў, сустрэў і пакахаў 23-гадовую Лауру, ужо замужнюю. Ім не давялося быць разам, але каханне Петраркі да Лауры нарадзіла цудоўныя санеты.

**1818.** У Парыжы барон Карл Дзедрэз прадэманстраваў двухколавы сродак перасоўвання, тое, што з гадамі ўдасканалілася да выгляду сучаснага ровара. На ровары Дзедрэза не было педаляў, на ім можна было катацца, адштурхоўваючыся ад зямлі нагамі.

**1896.** Па ініцыятыве заснавальніка Міжнароднага алімпійскага камітэту барона дэ Кубертэна ў Афінах на адноўленым антычным стадыёне адкрыліся першыя ў сучаснай гісторыі Алімпійскія гульні.

### 7 красавіка

**1410.** Замах тэўтонцаў на жыццё вялікага князя літоўскага Вітаўта, калі той перабываў у Кежмарку, што на поўначы Славакіі. Тую частку гораду, дзе знаходзіўся Вітаўт, падпалілі з усіх бакоў, і ў гэты момант на двор князя напала хеўра наймітаў. Але ахова дала ім адпор, і Вітаўт уратаваўся.

**1827.** У англійскім Стоктане пачынаюць прадавацца першыя запалкі. Прадавец – іх стваральнік, хімік Джон Уолкер.

**1926.** У БССР уводзіцца ўсеагульная абавязковая пачатковая адукацыя. Цяпер у нашай краіне каля 5 тысяч школаў, і, за выключэннем рэдкіх выпадкаў, няма непісьменнасці.

**1947.** Памёр Генры Форд, прамысловец, які арганізаваў аўтамабільную вытворчасць, зыходзячы з ідэі, што стандартызаваныя аўто можна выпрабляць у вялікай колькасці і адносна нізкім коштам.

**1948.** У якасці спецыялізаванай установы Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў створана Сусветная арганізацыя аховы здароўя. З таго часу гэты дзень адзначаецца як Сусветны дзень здароўя. Апрача таго, 7 красавіка – Дзень геолага.

### 8 красавіка

**563 да н.э.** Нарадзіўся Сідхартха Гаутама, індыйскі прынц, які пасля пераўвасаблення атрымаў імя Буда (Прасветлены). Ён стаў заснавальнікам новай рэлігіі – будызму.



**1912.** Нарадзілася славутая нарвежская фігурыстка Соня Хені. Яна першая ў свеце стала трохразовай алімпійскай чэмпіёнкай. Апрача таго, яна 10 разоў выйгравала чэмпіянаты свету. І нават здымалася ў Галівудзе, у фільме «Серэнада Сонечнай даліны».

### 9 красавіка

**1920.** Нарадзіўся стваральнік «Плейбоя» Х'ю Хефнер, якога празвалі Каралём голых.

**1952.** Самалёт *Martin 202* кампаніі *Japan Air Lines* урэзаўся ў схіл вулкану Міхара, што ў Японіі. Усе пасажыры загінулі.

**1962.** Прынята рашэнне адзначаць Сусветны дзень авіяцыі і касманаўтыкі. Прызначылі святкаваць яго 12 красавіка – у дзень, калі чалавек упершыню выправіўся ў космас.

### 10 красавіка

**1585.** Памёр Папа Рымскі Грыгорый XIII, які ўвёў ва ўжытак сучасны (грыгарыянскі) каляндар.

**1633.** У Англіі ўпершыню ў Еўропе пачынаюць прадавацца бананы.

**1847.** Нарадзіўся Джозеф Пулітцэр, амерыканскі журналіст і медыя-магнат. Ён заснаваў прэстыжную амерыканскую прэмію ў галіне літаратуры і журналістыкі – прэмію Пулітцэра.

**1972.** Землятрус у Іране забраў жыцці 3 000 чалавек.

### 11 красавіка

**1597.** У Варшаве пасля катаванняў пакаралі смерцю кіраўніка казацкага паўстання на землях Украіны і Беларусі Северына Налівайку.

**1857.** Расійскі цар Аляксандр II зацвердзіў дзяржаўны герб Расіі – двухгаловага арла.

**1945.** Армія ЗША вызваліла канцлагер Бухенвальд. Ад гэтае даты пайшло адзначэнне Міжнароднага дня вызвалення вязняў фашыцкіх канцлагераў.

**1992.** Прэзідэнты Украіны і



Расіі Леанід Краўчук і Барыс Ельцын адмяняюць свае ўказы аб пераходзе Чарнаморскага флоту пад юрысдыкцыю кожнай з гэтых краін. Гэтак былі пачатыя перамовы аб падзеле флоту.

Падрыхтаваў **Кірыла ПАЗНЯК**

Галоўны рэдактар **Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі.
Адрас: г.Мінск, вул. Рафіева, д.25, корп.1. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдадзена з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1142 Нумар падпісаны ў друк 4/04/2002 (15:00) Наклад – 7 740